*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# Наша слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 5(390)** **3 ЛЮТАГА 1999 г.**

# Кангрэс Дэмакратычных Сілаў

29-30 студзеня 1999 года ў Менску, сталіцы Рэспублікі Беларусь прайшоў II Кангрэс Дэмакратычных Сілаў Беларусі. На Кангрэсе прысутнічала больш тысячы дэлегатаў практычна ад усіх палітычных і грамадскіх арганізацый нашай краіны, а таксама шматлікія госці з дыяспары і суседніх краін: Расеі, Украіны, Летувы, Польшчы ды інш. Кангрэс прайшоў на высокай ноце разумення неабходнасці адзінства ўсіх дэмакратычных, антытаталітарных і антыімперскіх сілаў. І хоць казаць, што за два дні такое адзінства дасягнута, мабыць, не выпадае, але разуменне неабходнасці такога адзінства, здаецца прыйшло, прынамсі, калі не да ўсіх, то да большасці.

Кангрэс прыняў Супольную платформу Кангрэса дэмакратычных сілаў Беларусі, рэзалюцыі: Пра кансалідацыю дэмакратычных сілаў Беларусі, Пра пагрозу дзяржаўнасці і суверэнітэту Рэспублікі Беларусь, Пра адносіны да выбараў, Пра парушэнні правоў чалавека ў Беларусі, Пра негрунтоўнасць эканамічнай і сацыяльнай палітыкі прэзідэнта і ўрада Рэспублікі Беларусь, Пра дыскрымінацыю беларускай мовы ў Рэспубліцы Беларусь, Па міжнародных дачыненнях, У абарону Старавойтава. **Пад заслону Кангрэс Дэмакратычных Сілаў аднагалосна прыняў рэзалюцыю - зварот да ўрадаў ЗША, Англіі, ФРГ, Францыі, Італіі, Канады, Японіі, АБСЕ і іншых краін ды міжнародных арганізацый з просьбай прыняць захады дзеля таго, каб змусіць Лукашэнку даць палітычныя і прававыя гарантыі бяспекі вяртання на Радзіму з вымушанай эміграцыі старшыні БНФ "Адраджэньне" Зянона Пазьняка.**

Пасля Кангрэса адбылося шэсце ад плошчы Якуба Коласа да Опернага тэатра і мітынг. У шэсці і мітынгу разам з дэлегатамі Кангрэсу прынялі ўдзел 4-5 тысяч менчан.

### Рэзалюцыя

### Кангрэса дэмакратычных сілаў Беларусі

## Пра дыскрымінацыю беларускай мовы ў Рэспубліцы Беларусь

Мы, удзельнікі Кангрэса дэмакратычных сілаў Беларусі, з надзвычайнай трывогай і болем звяртаем увагу суграмадзян і нашых сяброў ва ўсім свеце на тую мэтанакіраваную палітыку па ўціску роднай мовы карэннага насельніцтва дзяржаўнай уладай Рэспублікі Беларусь, што ў рэшце рэшт можа прывесці да вынішчэння адной з самых старажытных і багатых славянскіх моў.

Беларусы — этнічная супольнасць на сваёй спрадвечнай тэрыторыі з адметнай мовай і культурай. Паводле перапісу 1989 года, з 10,3 мільёна жыхароў Беларусі 7,9 мільёна з'яўляюцца беларусамі, а 74,5% грамадзян назвалі сваёй роднай мовай беларускую.

Перажыўшы не адзін век гвалтоўнай асіміляцыі з боку больш магутных суседзяў, беларусы ўсё ж здолелі захаваць свой непаўторны нацыянальны характар, сваю самабытную культуру, сваю мілагучную мову і, як гістарычную справядлівасць, успрынялі на пачатку духоўнага Адраджэння незалежнасць Рэспублікі Беларусь і дзяржаўнасць мовы. У 1994-95 навучальным годзе 76% першакласнікаў навучаліся па-беларуску, што адпавядае нацыянальнаму складу краіны.

Аднак пасля абрання прэзідэнтам дзяржавы А. Лукашэнкі і асабліва пасля антыканстытуцыйнага рэферэндуму 1995 года сітуацыя пачала карэнным чынам мяняцца. Можна ўпэўнена сцвярджаць, што мова карэннага насельніцтва дыскрымінуецца.

У выніку афіцыйнай палітыкі апошніх чатырох гадоў фактычна знішчаецца беларускае школьніцтва (колькасць першакласнікаў, якія навучаюцца па-беларуску, у Менску, напрыклад, скарацілася з 58,6% у 1994 годзе да 4,8% у 1998 годзе, у двухмільённай сталіцы толькі 108 вучняў заканчваюць зараз навучанне ў школе на роднай мове); у Беларусі няма ніводнай вышэйшай навучальнай установы, дзе выкладанне вялося б цалкам па-беларуску; катастрафічна згортваецца беларускае кнігавыданне (у 1997 годзе з 5331 кнігі па-беларуску выдадзена толькі 862 кнігі; зачынена беларускамоўная радыёстанцыя "Радыё 101,2"; звужаецца ўжыванне беларускай мовы ў сродках масавай інфармацыі; з навучальных праграм выключаны творы выдатных майстроў нацыянальнай літаратуры; беларускай мовай практычна не карыстаецца вышэйшае чынавенства, не звяртаецца да яе большасць дзяржаўных органаў, судовых і пракурорскіх установаў.

Кангрэс дэмакратычных сілаў канстатуе, што ў Рэспубліцы Беларусь груба парушаюцца правы карэннай этнічнай супольнасці на свабоднае развіццё сваёй мовы і культуры.

Мы рашуча патрабуем ад кіраўніцтва краіны спыніць мэтанакіраваны ўціск беларускай мовы і культуры і спадзяёмся на салідарнасць міжнароднай грамадскасці ў абароне нацыянальных інтарэсаў беларусаў.

Мы заклікаем грамадзян Беларусі: зробім неадкладнай задачай змаганне не толькі за свае сацыяльныя і палітычныя правы, а і за нацыянальнае адраджэнне.

Выратаванне роднай мовы — наш святы грамадскі абавязак.

## У Сакратарыяце Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны

12 і 26 студзеня адбыліся пасяджэнні сакратарыята ТБМ, на якіх разглядаліся пытанні падрыхтоўкі да чарговага 6 з'езда Таварыства, што адбудзецца ў другой палове красавіка г.г.

Сакратарыят адзначыў пэўнае ажыўленне гарадскіх, раённых і першасных суполак ТБМ. Значная колькасць грамадзян, у прыватнасці, моладзі, папоўніла шэрагі сяброў Таварыства. У многіх суполках прайшлі справаздачна-выбарчыя сходы.

Сакратарыят зарэгістраваў занава створаныя Смаргонскую, Менскую (сельскую), Бярозаўскую, Карэліцкую раённыя арганізацыі, а таксама Раду Менскага Дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта, першасныя суполкі: Цнянскую (Савецкі раён г.Менска), Бараўлянскую (Менскі р-н), Белаазёрскую (Берасцейскі р-н).

У сябры ТБМ Сакратарыятам прыняты 19 чалавек.

Сакратарыят зацвердзіў Заяву адносна дыскрымінацыі і ігнаравання беларускай мовы пры падпісанні Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь і Прэзідэнтам Расейскай Федэрацыі 25 снежня 1998г дамоў аб аб'яднанні Беларусі і Расеі.

Прыняты таксама Зварот да ўсіх арганізацый ТБМ аб пікетаванні, прысвечанаму пратэсту супраць таго, што перапіс насельніцтва Беларусі будзе рабіцца па-расейсу, а самі пытанні адносна мовы ставяцца неканкрэтна і заблытана, што дасць магчымасць недабрачынцам беларушчыны "пераводзіць" беларусаў у іншую нацыянальнасць.

Сакратарыят звярнуўся таксама ў Міністэрства статыстыкі і аналіза з патрабаваннем падрыхтаваць апытальныя лісты на беларускай мове.

Рашэннем Сакратарыята ўхвалена ініцыятыва Менскай гарадской Рады па арганізацыі збору ахвяраванняў на выданне газет ТБМ і правядзенне 6 з'езда Таварыства шляхам выступлення адзіночных пікетаў з скрынкай для ахвяраванняў і надпісам на ёй аб мэтах збору сродкаў.

Сакратарыят раіць гарадскім і раённым Радам падтрымаць мянчан і ў сувязі з гэтым пісьмова ставіць да ведама мясцовыя аддзелы унутраных спраў аб месцы і мэтах зборшчыкаў ахвяраванняў. Іншае юрыдычнае афармленне гэтай акцыі не патрабуецца.

Сакратарыят просіць гарадскія і раённыя рады ТБМ, а таксама першасныя суполкі дасылаць на адрас газеты "Наша слова" матэрыялы з жыцця і дзейнасці Таварыства.

*Адказны сакратар*
*Таварыства беларускай мовы*
*імя Францішка Скарыны*
*А.Петрашкевіч*

Таварыства беларускай мовы
імя ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ

220005,Менск,вул.Румянцава,13
тэл.: 284-85-11, 213 -43-52
Разліковы рахунак 3015212330014,
код 764
у Гардырэкцыі Белбізнесбанка г.Менска
Валютны № 30120018240001 у Банку
Знешнеэканамічнай дзейнасці
Рэспублікі Беларусь

### Дарагія сябры! Шаноўныя прыхільнікі беларускай мовы ! Паважаныя суайчыннікі, а тасама грамадзяне іншых краін, каму неабыякавы лёс беларускай мовы і культуры!

Наша краіна перажывае нялёгкі час. Нацыянальнае адраджэнне, якое шырока разгарнулася ў канцы 80-х гадоў і ў пачатку 90-х гадоў, сустрэла моцны супраціў з боку антыбеларускіх сілаў. Масава зачыняюцца беларускія школы і класы, ліквідуюцца беларускія выданні і выдавецтвы. Былі выпадкі, калі людзей на вуліцах арыштоўвалі за тое, што яны размаўлялі па-беларуску.

У гэтых умовах Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны з'яўляецца адзінай грамадскай, некамерцыйнай, непалітычнай арганізацыяй, якая бароніць усё беларускае.

Цяпер наша арганізацыя трапіла выключна ў цяжкае матэрыяльнае становішча. Спынена дзяржаўнае фінансаванне газеты "Наша слова", ужо больш года яна выходзіць на ахвяраванні сяброў ТБМ. Але ТБМ не здаецца і шукае выйсце са становішча, што склалася не па віне арганізацыі.

Зараз Таварыства рыхтуецца да свайго чарговага УІ з'езда.

Мы звяртаемся да вас з просьбай аказаць ТБМ разавую матэрыяльную падтрымку на правядзенне з'езда, выданне газеты "Наша слова", а таксама даследванняў аб дыскрымінацыі беларускай мовы.

Загадзя ўдзячны ўсім прадпрыемствам, установам, арганізацыям, рухам і партыям, а таксама асобным грамадзянам, якія адгукнуцца на нашу просьбу.

Спісы ахвярадаўцаў па іх жаданні будуць надрукаваныя.

Наш разліковы рахунак 3015212330014 код 764 у Гардырэкцыі Белбізнесбанка г.Менска.

Паштовы адрас: 220005 г.Менск вул.Румянцава,13 тэл. 284-85-11, 213-43-52.

***Сакратарыят Таварыства***
***беларускай мовы***
***імя Францішка Скарыны***

## Ахвяраванні на ТБМ

| | |
|---|---|
| **Расея, Санкт-Пецярбург** | |
| 1. Грыцкевіч Валянцін Пятровіч | . 10 руб |
| 2. Прахорчык Міхаіл Мікалаевіч | . 10 руб. |
| 3. Кавалюк Яўгенія Трафімаўна | - 10 руб |
| 4. Нікалаеў Мікалай | . 10 руб. |
| 5.Чэрняковіч Іван Міх. | . 10 руб. |
| 6. Рымша Максім Уладзіміравіч | . 10 руб. |
| 7. Суднік Генрых Міхайлавіч | . 10 руб. |
| **Беларусь Менск** | |
| 8. Штыхаў Георгі Васільевіч | . 500 000 р. |
| 9. Ляхоўскі Уладзімір | 100 000 р. |
| 10. Сям'я Рудкоўскіх | 500 000 р. |
| 11. Пашкевіч Валеры Васільевіч | 200 000 р. |
| 12. Кафедра беларускага мовазнаўства БДПУ імя М. Танка | 2 300 000 р. |



№ 5(390) 3 ЛЮТАГА 1999 г. Наша слова

*Насустрач VI з'езду ТБМ*

# Старшыням абласных, гарадскіх і раённых Радаў Таварыства беларускай мовы

**Паважаныя сябры !**

Як Вам вядома, Рада ТБМ прыняла рашэнне правесці чарговы VI з'езд Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны ў другой палове красавіка 1999 г. у Менску.

Кіраўнікам гарадскіх, раённых арганізацый, першасных суполак і ўсім нашым актывістам прадстаіць вялікая і адказная арганізацыйная і растлумачальна-выхаваўчая работа на прадпрыемствах, ва ўстановах ВНУ, тэхнікумах і школах.

Трэба не толькі правесці ўлік членаў Таварыства, сабраць складкі, але і пашырыць свае шэрагі за лік тых, хто падтрымлівае ТБМ і ў меру сваіх магчымасцяў змагаецца за беларускую мову і беларускую школу.

Пры ўліку сяброў ТБМ раім быць уважлівымі да тых людзей, якія, будучы запалоханымі ці па нейкіх іншых абставінах, не жадаюць трапляць у афіцыйныя спісы сяброў ТБМ, хоць і застаюцца прыхільнікамі Таварыства і нават плоцяць абавязковыя складкі ці ўносяць ахвяраванні.

У сувязі з гэтым у Вашых афіцыйных справаздачах Радзе ТБМ указвайце, як спісачны склад сяброў суполак, так і колькасць прыхільнікаў ТБМ, што не жадаюць раскрываць сваіх прозвішчаў.

Было б пажадана, каб факт запалохвання сяброў ТБМ ці пагроз у іх адрас былі вывучаны і ў пісьмовай форме паведамлены ў Сакратарыят ТБМ з тым, каб маглі быць выкарыстаны і пад час работы з'езда і, магчыма, у прэсе.

Пастарайцеся правесці справаздачныя сходы з максімальным зборам як сяброў Таварыства, так і тых, хто спачувае справе абароны роднай мовы, і ў першую чаргу з ліку настаўнікаў і вучняў, а таксама выкладчыкаў ВНУ і студэнтаў.

Згодна з Пастановай Рады ТБМ, правядзіце справаздачы і выбары ў мясцовых суполках не пазней 10 сакавіка 1999 г. Пажадана, каб абласныя, гарадскія і раённыя арганізацыі ТБМ да 10 сакавіка 1999 г. падалі ў Сакратарыят:

— справаздачу па працы рэгіянальнай арганізацыі за 1998 г;

— спісы кіраўнікоў і сяброў рэгіянальнай арганізацыі;

— спіс сяброў, дэлегаваных на з'езд ТБМ;

— справаздачу аб аплаце сяброўскіх складак.

**ПАРАДАК**
***абрання дэлегатаў і нормы прадстаўніцтва на VI з'езд ТБМ***

1. Дэлегатам на з'езд ТБМ можа быць абраны сябра ТБМ, які мае сяброўскі білет, заплаціў абавязковыя складкі за 1998 год і стаіць на ўліку ў першаснай суполцы ТБМ па месцы працы ці жыхарства.

2. Выбары дэлегатаў на з'езд ТБМ праводзяцца толькі ў першасных суполках ТБМ.

3. Нормы прадстаўніцтва. Ад першаснай суполкі колькасцю не менш 10 чалавек абіраецца 1 дэлегат. Калі суполка налічвае ад 11 да 30 чалавек, абіраецца 2 дэлегаты. Калі колькасць сяброў у суполцы перавышае 30 чалавек, абіраецца 3 дэлегаты. Малалікія суполкі могуць правесці агульны сход колькасцю не меней 10 чалавек каб абраць свайго дэлегата на з'езд.

4. У выбарах дэлегатаў на чарговы з'езд ТБМ удзельнічаюць сябры ТБМ, якія заплацілі абавязковыя чарговыя складкі за 1998 год, памер якіх вызначаны адпаведнай пастановай Рады ТБМ.

5. Абранне дэлегатаў на чарговы з'езд праводзіцца з 15 снежня 1998 года па 1 сакавіка 1999 года.

6. Пратаколы аб абранні дэлегатаў на чарговы з'езд ТБМ прадстаўляюцца ў сакратарыят ТБМ не пазней 10 сакавіка 1999 года.

7. Сакратарыят ТБМ рэгіструе дэлегатаў толькі ад тых суполак, якія зарэгістраваны і стаяць на ўліку ў сакратарыяце ТБМ альбо ў адпаведных раённых, гарадскіх ці абласных арганізацыях, заплацілі адпаведныя абавязковыя сяброўскія складкі за 1998 год і пералічылі на цэнтральны рахунак ТБМ суму ад сваіх фінансавых даходаў у памеры не менш як 25%.

8. Дэлегатамі на чарговы з'езд ТБМ з'яўляюцца ўсе сябры Рады, сакратарыята і рэдкалегіі газеты "Наша слова".

Карыстаючыся нагодай, паведамляем, што на пасаду адказнага сакратара ТБМ прызначаны пісьменнік Алесь (Аляксандр Лявонавіч) Петрашкевіч. Рабочы тэлефон сакратарыята 213-43-52, 284-85-11. Распарадак дня адказнага сакратара наступны: панядзелак, серада, пятніца — з 14 да 17 гадзін у сядзібе ТБМ па Румянцава,13. Аўторак і чацвер — арганізацыйная работа.

Тэхсакратар працуе штодзённа ў сядзібе ТБМ з 10 да 14 гадзін.

Пасяджэнні сакратарыята праходзяць па аўторках другога і чацвёртага тыдня кожнага месяца а 18 гадзіне ў сядзібе ТБМ.

***Старшыня Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны Г.Бураўкін***

*Насустрач VI з'езду ТБМ*

# Віцебская кроніка

***У канцы лістапада*** сябры Аршанскай гарадской арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, Маладзёжнага хрысціянска-сацыяльнага саюза ды Аршанскай рэгіянальнай маладзёжнай арганізацыі "РША" правялі пікет у абарону нацыянальнай мовы беларусаў.

Пікетоўшчыкі раздавалі ўлёткі з патрабаваннямі паспраўднаму прыраўняць становішча беларускай і расейскай моў.

Маладзёжны хрысціянска-сацыяльны саюз, Аршанская рэгіянальная маладзёжная арганізацыя "РША" зладзілі некалькі гісторыка-краязнаўчых вікторынаў сярод аршанскіх старшакласнікаў і правялі творчую вечарыну ў СШ № 8.

Мерапрыемствы прымяркоўваліся да дня нараджэння Уладзіміра Караткевіча і гадавіне надання Воршы Магдэбургскага права (1620 год).

Аршанская арганізацыя Маладзёжнага хрысціянска-сацыяльнага саюза правяла ***28 лістапада*** рэспубліканскую канферэнцыю МХСС.

На яе прыбылі чальцы МХСС з Віцебска, Магілёва, Гомеля, Менска. Канферэнцыя выпрацавала новыя кірункі працы маладых хрысціянскіх дэмакратаў.

***У пачатку снежня*** Аршанская арганізацыя Маладзёжнага хрысціянска-сацыяльнага саюза зладзіла для актывістаў трэцяга сектара семінар па падрыхтоўцы назіральнікаў за выбарчым працэсам.

У імпрэзе прыняліі ўдзел старшыня Усебеларускага клуба выбаршчыкаў Уладзімір Гудзееў і адзін з кіраўнікоў Аб'яднанай грамадзянскай партыі Міхаіл Пліска.

***Напярэдадні Каляд*** у Віцебску адбылося трэцяе і апошняе ў 1998 годзе паседжанне Віцебскай абласной рады Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.

На сустрэчу з'ехаліся сябры ТБМ з розных куткоў Віцебшчыны (у прыватнасці, з Гарадка, Воршы, Полацка, Віцебскага раёна ды інш.). У працы абласной рады ўдзельнічаў старшыня ТБМ Генадзь Бураўкін.

Падчас спаткання прыводзіліся канкрэтныя факты парушэння правоў карэннага насельніцтва. Напрыклад, з 790 агульнаадукацыйных школаў у 498 (63 адсоткі) вядзецца навучанне на нацыянальнай мове. Аднак большасць гэтых сярэдніх школ размешчана ў сельскай мясцовасці, дзе колькасць вучняў невялікая. Такім чынам, толькі 25% школьнікаў вобласці вучацца на роднай мове. У гарадах пераважае расейскамоўная адукацыя. Скажам, у Воршы няма ніводнага класа ці школы з беларускай мовай навучання.

Актывісты Таварыства беларускай мовы намерваюцца патрабаваць ад Міністэрства адукацыі павялічэння колькасці класаў і школ з нацыянальнай мовай навучання, а таксама стварэння незалежных варункаў для адраджэння і развіцця роднай культуры.

Летась, як вядома, Беларусь актыўна адзначыла двухсотыя ўгодкі з дня нараджэння вялікага творцы зямлі нашай Адама Міцкевіча. Па-за сваёй увагай не пакінуў святкаванняў і трэці сектар. НДА Віцебшчыны неаднаразова на працягу году звярталіся да юбілейнай даты.

***24 снежня*** ў Віцебскім медыцынскім вучылішчы была зладжаная імпрэза з нагоды юбілею знакамітага пісьменніка. На свяце прысутнічалі навучэнцы, выкладчыкі вучэльні, прадстаўнікі няўрадавых арганізацый — мясцовых структур Саюза палякаў Беларусі, Супольнасці "Беларусь — наш еўрапейскі дом", Рэсурснага цэнтра "Згода".

Навучэнцы падрабязна прадставілі жыццёвы ды творчы шлях Міцкевіча, прачыталі ягоныя творы, прадэманстравалі ўрыўкі з хрэстаматыйнага "Пана Тадэвуша". Да мерапрыемства была падрыхтаваная невялікая выстава Міцкевічаўскіх кнігаў. Пакой, дзе праходзіла імпрэза, быў аздоблены прыгожымі малюнкамі на юбілейную тэматыку.

Нэля Зайцава з Саюза палякаў з замілаванасцю прачытала ўдзельнікам імпрэзы вершы Адама Міцкевіча па-беларуску і на мове арыгінала. Вялікую цікавасць моладзі выклікаў канцэрт саліста віцебскага гурта "Newcosmopolis", кіраўніка Супольнасці "Беларусь — наш еўрапейскі дом" Яўгена Савеллева. Ён пачаў свой выступ з песні "Паэт — заўсёды бунтар", напісанай з прычыны 200-годдзя з дня нараджэння Міцкевіча і якой не раз адкрываліся праграмы ў рамках іншых музычных акцый, што праводзіліся супольна групай "Newcosmopolis" і беларускімі бардамі. Далей спявак выканаў некалькі патрыятычных і лірычных твораў.

***26 снежня*** прадстаўнікі некалькіх аршанскіх НДА супольна з лідэрамі шэрагу хрысціянскіх канфесіяў горада правялі дабрачынны канцэрт для аршанскіх дзяцей.

Пасля выступленняў хрысціянскіх калектываў юныя аршанцы атрымалі калядныя падарункі.

***29 снежня*** прадстаўнікі віцебскай і аршанскай гарадскіх арганізацый Беларускага народнага фронту "Адраджэньне" пабывалі ў Варшаве. У сталіцы Польшчы была праведзена нарада кіраўніцтва БНФ з лідэрамі і актывістамі рэгіянальных франтаўскіх структур з усіх абласцей краіны.

Вёў паседжанне старшыня Народнага фронту Зянон Пазьняк. Кіраўнік партыі зрабіў агляд працы БНФ на міжнароднай арэне, прадставіў план найбліжэйшых дзеянняў і выказаўся па стратэгіі фронту.

На думку партыйнага лідэра, БНФ мусіць актывізаваць пратэст супраць інтэграцыйных памкненняў рэжыму, інтэнсіфікаваць акцыю па збору подпісаў за адстаўку Аляксандра Лукашэнкі з пасады прэзідэнта, далей праводзіць запіс у грамадзянства Беларускай Народнай Рэспублікі. Спадар Пазьняк прапанаваў звярнуць увагу на рабочы рух. Паводле ягоных меркаванняў, зараз рабочыя — новая дадатковая апора ў змаганні з існымі недэмакратычнымі парадкамі.

Кіраўнік БНФ лічыць, што ў будучыні ў Рэспубліцы Беларусь трэба ліквідаваць інстытут прэзідэнцтва і замяніць мажарытарную сістэму выбараў на тую, якая б больш адлюстроўвала палітычныя прыхільнасці выбаршчыкаў.

Удзельнікі сустрэчы абмяняліся думкамі наконт палітычнае сітуацыі ў Беларусі.

Напрыканцы спаткання старшыня Беларускага народнага фронту прапанаваў аднапартыйцам выпрацаваць канцэпцыю легальнай магчымасці ліквідацыі дыктатарскай сістэмы.

***Юрась Сцяпанаў***
***Рэсурсны цэнтр "Згода". г.Віцебск.***

# Шаноўныя суайчыннікі, грамадзяне Беларусі !

Набліжаецца перапіс насельніцтва нашай краіны. Кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь паспрабуе выкарыстаць яго, як яшчэ адзін рычаг далейшага ўціску карэннай нацыі і яе мовы.

Перапісныя лісты, зацверджаныя Міністэрствам статыстыкі і аналізу, адрукаваныя толькі па-расейску, што груба парушае канстытуцыйны статус нашай роднай беларускай мовы. Выступаючы на расейскім тэлебачанні, Прэзідэнт А.Лукашэнка сцвярджаў, што ў Беларусі 25% насельніцтва — расейцы, а яшчэ 25% — дзеці змешаных шлюбаў.праводзячы тым самым думку, што беларусы на сваёй спрадвечнай зямлі сталі нацыянальнай меншасцю. Перапіс і закліканы афіцыйна "пацвердзіць" гэтае сенсацыйнае "адкрыццё".

Напамінаем, што паводле перапісу 1989 года, з 10,3 мільёнаў жыхароў Беларусі 7,9 мільёна з'яўляліся беларусамі і 74,5 % усіх грамадзян лічылі роднай мовай беларускую. Калі ўявіць, што прыведзеныя А.Лукашэнкам дадзеныя не з'яўляюцца чарговай хлуснёй, дык у Беларусі ў апошнія гады ідзе катастрафічнае скарачэнне прадстаўнікоў тытульнай нацыі і распачаты этнацыд беларускага народа.

Пад дэмагагічнымі лозунгам інтэграцыі з братняй Расіяй на самым вышэйшым узроўні зняважаецца і ігнаруецца дзяржаўная беларуская мова. Яна ўжо дэманстратыўна не выкарыстоўваецца ў дыпламатычнай практыцы, як гэта было пры падпісанні ў Маскве 25 снежня мінулага года чарговых "саюзных" дакументаў. Яна нахабна выціскаецца са справаводства, з дзейнасці судоў, пракуратуры, дзяржаўных устаноў, тэлевізійнага і радыёвяшчання.

Ідзе знішчэнне беларускага школьніцтва — у Менску колькасць першакласнікаў, якія навучаюцца па-беларуску, з 58,6% у 1994 годзе скарацілася да 4,8% у 1998 годзе ...

Такім чынам разбураецца наша нацыянальная дзяржаўнасць, ідзе масаваная падрыхтоўка да ліквідацыі суверанітэту Рэспублікі Беларусь.

І ўсё гэта пры абвальным пагаршэнні жыцця людзей. Сярэдняя зарплата ў нас зараз складае 20-30 даляраў, а сярэдняя пенсія — каля 10 даляраў. Для параўнання: у суседняй Летуве мінімальны заробак — 100 даляраў, а сярэдняя пенсія — 125 даляраў.

Шаноўныя суайчыннікі, грамадзяне Беларусі !

Патрабуйце пры правядзенні перапісу насельніцтва афармлення дакументаў на дзяржаўнай беларускай мове!

Ні пад якім націскам, ні пад якой агітацыяй не адмаўляйцеся ад мовы Купалы і Коласа як роднай мовы!

Абаронім сваю нацыянальную годнасць!

Захаваем суверанітэт нашай дзяржавы!

Жыве Беларусь !

***Сакратарыят Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.***





# Гэта не сапраўдны перапіс насельніцтва, а павярхоўная акцыя, скіраваная супраць этнічных і дзяржаўных асноў беларускасці, таму яго вынікі будуць абавязкова адменены

*Тэма "переписи населения Республики Беларусь" закранута "Народнай воляй". Мною гэтае пытанне разглядалася больш грунтоўна. I асноўны вывад атрымаўся супрацьлеглым, зробленаму "Народнай воляй". Але ж яна адмовілася друкаваць мой матэрыял, чым выказала сваё права на ісціну ў апошняй інстанцыі, якая належыць толькі Богу. Таму прашу "Наша слова" азнаёміць чытачоў з маімі думкамі.*

Шаноўны спадар Трусаў А.А. раіць "быць вельмі пільнымі" пры адказах на пытанні "переписного листа" ... "переписи населения Республики Беларусь" ("Народная воля" ад 13.01. 1999г.), гэта значыць усё ж удзельнічаць у гэтай акцыі. Але любая "пільнасць" тут не зможа змяніць ні павярхоўную сутнасць ні злачынную мэтанакіраванасць.

Названая павярхоўнасць відаць нават пры простым азнаямленні з пытаннямі "переписнога листа". Вось некаторыя пацверджанні таму.

— "Переписной лист" зацверджаны толькі "Приказом Министра статистики и анализа республики Беларусь". Змест пытанняў і кампаноўка гэтага ліста не абмяркоўвалася ў сродках масавай інфармацыі, рознымі грамадскімі, палітычнымі плынямі і прадстаўнікамі нацыянальна-этнічнай інтэлігенцыі. Таму ён у пэўнай меры атрымаўся проста прымітыўным.

— Да "листа" не прыкладзены аніякай, даступнай апытваным жыхарам інструкцыі. Таму не вядома форма вядзення апытанняў, сутнасць запаўнення "листа", кім і як гэта робіцца, да якога ўзросту апытваны адказвае на пытанні сам, якія правы апытваных, як пазбегнуць ціску "перапісчыкаў", у якіх выпадках фармуюцца агульнасямейныя адказы на пытанні. Няма аніякай гарантыі, што пэўным чынам праінструктаваныя перапісчыкі будуць запаўняць "переписные листы" у адпаведнасці з указаннямі "партии и правительства" у іх новых праявах.

— Сутнасць перапіснога ліста заблытана. Чыё, напрыклад, прозвішча ставіцца ў загалоўку: апытванага, "Лица, указанного первым в домохозяйстве", што гэта за "лицо", калі ў кватэры могуць быць розныя "домохозяйства" і некалькі сем'яў, дарослыя людзі розных пакаленняў са сваімі поглядамі.

— Немагчыма ўцяміць, навошта ставяцца пытанні: "Жена, муж, мать, отец, дочь, сестра, невестка" і гэтак далей. Што яны і каму пакажуць: мнагажэнства, колькасць каханак або каханых. Пры такім апытанні склад сям'і, поўная яна, ці не, колькасць разоў ён, ці яна замужам (што з'яўляецца вельмі важкім пакажчыкам маралі), розныя паказчыкі жыццезабеспечанасці і многае іншае важкае для выяўлення чадавечнасці твару грамадства застаецца неўлічаным.

— Невядома, як адказваць на пытанне "кем Вы работали на основной работе?" калі чалавек некалькі дзесяткаў разоў мяняў працу, зараз працуе. Яшчэ цяжэй у гэтым выпадку ўцяміць пры адказе на пытанне "укажите наименование предприятия и вид его деятельности". Да каго яно адносіцца, калі чалавек не запісаны ў сям'і "первым", лічыцца яшчэ непаўнагадовым, з'яўляецца "свекром, тещей, внуком, не родственник" і г.д. Не менш цікава, што і каму дасць гэта пытанне. Было б карысна даведацца ад самаго насельніцтва, колькі ў нас бежанцаў і адкуль, колькі вайскоўцаў і міліцыі, меўшых судзімасць, знаходзячыхся ў ізалятарах і турмах, выехаўшых у іншыя краіны на заробкі.

Глыбінны ж аналіз "переписного листа" дае падставы сцвярджаць АБ ЗЛАЧЫННАСЦІ ГЭТАГА МЕРАПРЫЕМСТВА Ў ГАЛОЎНЫМ КІРУНКУ. БО ЯСКРАВА ВІДАЦЬ ЯГО АНТЫБЕЛАРУСКАЯ, АНТЫЭТНІЧНАЯ, АНТЫНАЦЫЯНАЛЬНАЯ, АНТЫДЗЯРЖАЎНАЯ скіраванасць. Таму наўмысна:

— Пытанні пададзены не на мове карэннага этнасу, а на "языке Российской метрополии", у каланіяльны стан якой штурхаецца Беларусь і праз гэтую "перепись".

— Пастаўлена пытанне "на каком языке Вы обычно разговариваете дома", каб нахабна крычаць потым: "смотрите, белорусы сами добровольно выбрали великий и могучий (матерный) русский язык": беларускай мовы няма. Яна, як прыдуманая, "бедная" знікае сама сабой, неабходнасці ў ёй, як і ў беларускім этнасе, не існуе. Беларусы — бязродныя манкруты. Яны павінны асіміляваца ў склад расейцаў.

— На тое ж скіравана і пытанне "другой язык", которым свободно владеете". Бо яно разлічана на празмернае ўзвялічэнне "великого и могучего (по матерности!!!)русского языка. Да таго ж, чалавек можа свабодна валодаць некалькімі мовамі.

— Такое нахабства "вопросов" робіцца пры ГІСТАРЫЧНАЙ ВІДАВОЧНАСЦІ ТАГО што Беларусь амаль 1,5 стагоддзя з'яўлялася калоніяй Расіі, дзе беларуская мова была цалкам забаронена для ўжытку, што ў савецкі час наша мова выбівалася са свядомасці народа з метадычнай злачыннай жорсткасцю, а яе вядучыя этнічныя прадстаўнікі знішчаліся фізічна, як нацдэмы і ворагі народа, што зараз улады робяць усё магчымае, каб мова стала цалкам і назаўжды непатрэбнай, каб нацкаваць супраць яе саміх беларусаў.

Усё толькі што адзначанае з'яўляецца найвялікшым злачынствам і міжнароднага маштабу, бо скіравана на этнацыд беларускасці. Але ж этнасы створаны Богам не выпадкова, а каб праз дабразычлівае ўзаемадзеянне этнічных самабытнасцяў забяспечыць умовы для безупыннага самаўдасканалення ўсёй агульначалавечай супольнасці. Таму выпадзенне з ланцуга таго спаборніцтва 12-мільённай грамады беларусаў са сваёй своеасаблівай культурай і сутнасцю, са сваім генафондам і яго магчымасцямі не пойдзе на карысць чалавецтву. Паглынанне беларусаў павісне гістарычным цяжарам і на самім расейскім народзе. Бог не даруе яму гэтага.

Са сказанага вынікае неабходнасць адмены вынікаў разгляданай акцыі. Яна павінна ў абноўленым выглядзе праводзіцца пад сутнасцю АПЫТАЛЬНАГА, а "НЕ ПЕРЕПИСНОГО" ЛИСТА. Таму што немагчыма нават уявіць нармальнаму розуму і думак аб правядзенні такога апытання ў Францыі на любой мове суседняй дзяржавы, або ў Японіі па-кітайску, ці англійску, хоць апошняя там распаўсюджана. У новым АПЫТАЛЬНЫМ ЛІСЦЕ павінны быць і такія пытанні:

— Як Вы адносіцеся да знішчэння беларускай мовы і беларускай этнічнай самабытнасці? (Станоўча, адмоўна).

— Ці магчыма захаванне і развіццё беларускай мовы і этнічнай самабытнасці без захавання і развіцця самастойнай беларускай дзяржаўнасці? (Немагчыма, магчыма).

Такія і другія аналагічныя пытанні ў названым апытальным лісце магчымы і пры расейскім разуменні сутнасці слова "перепись населения". Бо гэта — "получение демографических, экономических, социальных сведений о жителях страны" (Большой энциклопедический словарь. Москва-Санкт-Петербург. 1997 г., стр.894). Прапанаваныя ж намі пытанні адносяцца да дэмаграфічных. Толькі вынік усякага сур'ёзнага (у тым ліку і



разгляданага) апытання насельніцтва залежыць ад яго падрыхтаванасці ў сэнсе разумення апытванымі глыбіннай сутнасці пытан-няў, уплыву адказаў на лёс беларускай дзяржавы, беларускага этнасу, беларускай нацыі. Таму проста недапушчальна абмежаваць інфармацыю насельніцтва толькі тлумачэннямі з боку беларусафобных прэзідэнцкіх структур і такіх жа сродкаў масавай інфармацыі. Абавязкова павінна быць прадугледжана рэальная магчымасць удзелу ў такіх абмеркаваннях, у выказванні разнастайных думак і ўсім дэмакратычным плыням рэспублікі, яе апазіцыйным сілам, прадстаўнікам розных грамадскіх арганізацый беларускай скіраванасці. І рабіцца гэта павінна пры нашых сучасных умовах пад дзейсным наглядам адпаведных міжнародных структур. Мяне вельмі здзіўляе маўчанне ў гэтых адносінах беларускай інтэлігенцыі. Няўжо яна сапраўды знікла іператварылася ў шэрую людскую масу, зацыкленую толькі на матэрыялізме.

*Аляксей Саламонаў,*
*доктар тэхнічных навук,*
*прафесар, старшыня*
*Менскай гарадской рады*
*Таварыства беларускай мовы.*
*10-13.01.1999 г.*

# Што нясе беларусам перапіс насельніцтва?

На гэтае пытанне звярнуў увагу чытачоў "Народнай волі" спадар Алег Трусаў (№4.13.01.1999г.). Перапіс тоіць вялікую небяспеку, як беларусам, так і нашай мове, бо ўлада напэўна выкарыстае яго ў сваіх мэтах, напрыклад, даказаць падрыхтаванасць Беларусі да аб'яднання з Расеяй. Аб гэтым сведчыць як характар пытанняў перапіснога ліста, так і выказванні прэзідэнта, што ў Беларусі 25 працэнтаў расейцаў і 25 дзеці змешаных шлюбаў. Так было пры польскім перапісе, калі беларусы- каталікі, якія хадзілі ў "польскі касцёл" аўтаматычна заносіліся ў рубрыку палякаў ("Спадчына", №6, 1995г.).

Па дадзеных перапісу 1989г. беларусаў было 77,9 працэнтаў, рускіх — 13,2, палякаў 4,1, украінцаў 2,9, яўрэяў 1,1... ("Полымя", №7,1996г.). Наша рэчаіснасць такая, што бальшыня насельніцтва карыстаецца расейскай мовай. Большасць беларусаў ведае сваю мову, бо вучыліся ў беларускіх школах або засвоілі яе дома ад бацькоў. Але за гады вучобы ў расейскамоўных тэхнікумах і інстытутах, а пазней працуючы ў такіх жа калектывах, патрацілі навыкі гаварыць па-беларуску. У іх засталася толькі магчымасць чытаць кнігі на роднай мове. Загадчык Ашмянскай паліклінікі нядаўна сказаў, што спачатку пачаў чытаць р-н "Людзі на балоце" на расейскай мове, а потым узяў на беларускай, дык адчуў зусім другі смак. Маладыя ўрачы, медсёстры, якія яшчэ добра памятаюць школу і ўрокі белмовы, дык карыстаюцца ёю ў гутарках з хворымі, асабліва з вёсак. Але людзі старэйшага ўзросту, як прызналася знаёмая, хоць і сорамна, але мову бацькоў забылі.

Сярод беларусаў мае значнае пашырэнне білінгвізм — добрае веданне мовы суседзяў. Таму для Беларусі характэрна сумеснае ўжыванне абедзвюх моваў. Чыстай літаратурнай беларускай мовай паўсюдна і пастаянна карыстаюцца найбольш адукаваныя прадстаўнікі грамадства.

Першае пытанне пятага пункту перапіснога ліста патрабуе назваць родную мову. Правільна будзе беларусам запісаць беларускую, нават калі яе не ўжываюць. Загадчык неўралагічнага аддзялення нашай ЦБ кажа: "Родная мова ў нас беларуская, але мы ёю не карыстаемся". У другім пытанні пятага пункта ўлада цікавіцца, на якой мове мы размаўляем дома, хоць не яе гэта справа. Не памылюся, калі скажу, што ў многіх сем'ях гэта змешаная мова, так званая трасянка, якую можна лічыць як за беларускую, так і за расейскую, што ўлада напэўна зробіць. Змешаная мова ў нашых умовах роднасці і блізкасці дзвюх моў — непазбежная з'ява і з гэтым трэба лічыцца. Нагадаю, што прафесар Юры Хадыка ў "Нашым слове" № 31 за 1996 г. прапанаваў: "Даць, напрыклад, права грамадзянства звычайнай трасянцы". У гэтым ёсць пэўны сэнс, бо яна яскрава сведчыць, што родная мова яшчэ не забылася, а суседняя не авалодала чалавекам цалкам. Думаецца, што беларусы такую сваю мову маюць поўнае права лічыць беларускай.

На трэцяе пытанне пра "другой язык", которым вы владеете" многія беларусы адкажуць: не толькі расейскім, але і польскім, г.зн. не адным.

Бяспрэчна, перапіс будзе выкарыстоўвацца ў многіх мэтах: як доказ, што беларусаў ужо мала, што беларуская мова не мае значнага пашырэння, што расейская пануе і спрыяе ўтварэнню адзінай дзяржавы Беларусі з Расеяй. Але ён падцвердзіць і ступень, і маштабы асіміляцыі беларусаў расейцамі, што таксама вельмі важна, каб прымаць адпаведныя меры для выратавання беларускай нацыі.

*Міхась Пузіноўскі. г.Ашмяны.*

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by

*Рэдакцыйная калегія:*
Людміла Дзіцэвіч, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Лілея Сазанавец, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі і друку Гарадзенскага аблвыканкама.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Кошт па дамове.Газета падпісана да друку 1. 02. 99 г.
Наклад 3500 асобнікаў. Замова № 232 .
**Падпісны індэкс:** 63865.
**Кошт падпіскі:** 1 мес.- 15 000 руб., 3 мес.- 45 000 руб.
**Кошт у розніцу:** 5 000 руб.